*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас

**№ 83 (1148)**
Пятніца, 11 мая 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 100 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля








## НАВІНЫ

### Змагацца да канца

**Дзесятыя суткі ў Бабруйску трымае галадоўку старшыня Незалежнага прафсаюза шыннага камбіната Алена Захожая.**

Сваёй галадоўкай настойвае, каб адміністрацыя прадпрыемства прадставіла даведку пра наяўнасць у прафсаюза юрыдычнага адраса, які патрэбны для рэгістрацыі бабруйскімі ўладамі суполкі дэмакратычнага прафсаюза.

Гэтае патрабаванне Алены Захожай — законнае і цалкам грунтуецца на нормах Канстытуцыі Беларусі і канвенцыях Міжнароднай арганізацыі працы, ратыфікаваных нашай краінай.

Як вядома, напрыканцы сакавіка МАП разгледзела ў Жэневе скаргу беларускіх прафсаюзаў і прызнала парушэнні прафсаюзных правоў. А 7 красавіка на сустрэчы з дэлегацыяй МАП у Мінску кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч паабяцаў, што беларускія ўлады спыняць канфрантацыю з прафсаюзамі. Аднак, як вынікае з цяперашніх падзей у Бабруйску, у сапраўднасці нічога не змянілася. Ва ўлётках, што гуляюць зараз па цэхах “Белшыны”, бабруйскія рабочыя папярэджваюць Дзмітрыя Сівіцкага, якога тры месяцы таму прызначыў на гэтую пасаду Аляксандр Лукашэнка, каб не браў “грэх на душу” і задаволіў пратэст прафсаюзнага лідэра.

**Антон ДРОНЧАНКА.**

### Свет помніць пра Юрыя Захаранку

**Прэс-сакратар Дзяржаўнага дэпартамента ЗША Рычард Баўчар выступіў з заявай 7 мая, у другую гадавіну знікнення былога міністра ўнутраных спраў Беларусі Юрыя Захаранкі.**

Прагучала заклапочанасць, што беларускія ўлады “не прыклалі сур’ёзных намаганняў”, каб расследаваць гэты выпадак, а таксама знікненні апазіцыйнага палітыка Віктара Ганчара, бізнесмена Анатоля Красоўскага і журналіста Дзмітрыя Завадскага.

З аналагічнай заявай у той жа дзень ад імя Еўрапейскага Саюза выступіла Швецыя, якая цяпер старшынствуе ў гэтай арганізацыі.

**Алесь АБРАМОВІЧ.**

### Кадравыя прызначэнні

**Ніна Мазай** прызначана Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Канадзе.

**Аляксандр Пятроў** стаў Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Балгарыі.

**Аляксандр Шпілеўскі** будзе памочнікам прэзідэнта Беларусі - галоўным інспектарам па Мінску.

**Анатоля Куляшова** прызначылі начальнікам упраўлення ўнутраных спраў Гомельскага аблвыканкама.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ.**

### Аштрафаваны ўдзельнікі пікета

**8 мая ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска былі разгледжаны адміністрацыйныя справы двух удзельнікаў пікета ў гадавіну знікнення былога міністра ўнутраных спраў Юрыя Захаранкі.**

Пікет, арганізаваны праваабарончай арганізацыяй “Прававая дапамога насельніцтву, адбыўся 7 мая ля будынка Пракуратуры Рэспублікі Беларусь. Яго ўдзельнікі трымалі плакат ”Чаму знікаюць палітыкі? Каму гэта патрэбна? Хто за гэта адказа?". Акцыя працягвалася 45 хвілін. Трое яе ўдзельнікаў былі затрыманы міліцыяй. Аднаго неўзабаве адпусцілі, на дваіх — Сяргея Стрыжонка і Ігара Гайшуна, якія трымалі плакат, — былі складзены пратаколы, перададзеныя затым у суд.

Суддзя Наталля Вайцаховіч прызнала іх вінаватымі ў правядзенні несанкцыянаванага пікетавання (артыкул 167-1 частка 1 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях Рэспублікі Беларусь) і пастанавіла падвергнуць Сяргея Стрыжонка штрафу ў памеры 20 мінімальных зарплат, а Ігара Гайшуна — 50 мінімальных зарплат.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

### Ярмошына ў Індыі

**Цэлы тыдзень будзе пуставаць крэсла старшыні Цэнтрвыбаркама. Яго гаспадыня Лідзія Ярмошына правядзе гэты час у паўднёвых штатах Індыі, куды яна афіцыйна запрошана ў якасці назіральніка за выбарамі ў мясцовыя органы самакіравання.**

У межах гэтага візіту ў Лідзіі Міхайлаўны адбудзецца сустрэча са старшынёй індыйскага Цэнтрвыбаркама. З гэтай нагоды Ярмошына прыхапіла з сабой некалькі экзэмпляраў Выбарчага кодэксу Рэспублікі Беларусь, перакладзенага на англійскую мову.

Напэўна, яна лічыць, што можна перадаць індыйскім калегам шмат карыснага. А можа, спадзяецца, што індыйскі Цэнтрвыбаркам будзе працаваць па беларускай мадэлі?..

**Таццяна АЛЯКСАНДРАВА.**



## ХОТИМ ЗНАТЬ ПРАВДУ


Анатолий Майсеня: несчастный случай или спланированная катастрофа? Геннадий Карпенко: скоропостижная смерть или политическое убийство? Юрий Захаренко: исчезновение или политический терроризм? Виктор Гончар: исчезновение или устранение конкурента? Анатолий Красовский: исчезновение или организованное похищение? Дмитрий Завадский: исчезновение или организованное похищение? Андрей Климов: экономическое правонарушение или политическая расправа?




## ЖИВАЯ ЦЕПЬ НЕРАВНОДУШНЫХ ЛЮДЕЙ

**От площади Независимости до площади Октябрьской**

**18 мая (Пятница), с 18.00 до 19.00**

**Тел. 211-02-79,227-75-49**

**ВСТАНЬ РЯДОМ!**

### Чьи песни звучали?

**Праздничный концерт для ветеранов второй мировой войны 8 мая 2001 года был демонстративно антибелорусским**

Наш народ в 1941—1945 годах понес едва ли не самые большие потери среди стран, через чьи территории прокатился Молох войны. Погиб каждый третий, а в Витебской области — каждый второй наш соотечественник.

По данным практически всех переписей населения, белорусов в Беларуси — более 80 процентов. Но на праздничном концерте после торжественного собрания, посвященного 56-й годовщине победы советского народа в Великой Отечественной войне, демонстративно звучали только русские песни. Хотя нет, на русском языке песен было 18, еще одна прозвучала на украинском.

Да, украинцы тоже гибли на наших землях, и отдать им память за это мы обязаны. Но на официальном концерте, посвященном памяти миллионов погибших белорусов, не исполнить ни одной песни на белорусском языке!!! — большего кощунства и придумать трудно.

Я сам — русскоязычный. Но видел и слышал, как в столице Беларуси ведущие концерта не произнесли на белорусском языке даже слов приветствия. Видя и слыша, как после объявления о выступлении заслуженных и народных артистов Беларуси звучит песня на русском языке, — с трудом сдерживал себя, чтобы не запустить утюгом в телевизор.

Простите белорусы тех, кто говорит по-русски!

Мы не шовинисты и не манкурты. Мы с глубоким уважением относимся к белорусской истории. Верим, что после ухода в небытие нынешнего шовинистического режима белорусская песня зазвучит на просторах нашей страны.

Кто бы ни был избран президентом взамен нынешнего правителя, он не станет так издеваться над чувствами белорусского народа и историей нашей страны.

**Валерий ЩУКИН.**

### Літоўскі пасол наведаў Хатынь

Гэта ўжо стала традыцыяй. Трэці год запар 8 мая Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Літоўскай Рэспублікі ў Беларусі Ёнас Паслаўскас і супрацоўнікі літоўскай амбасады наведваюць мемарыяльны комплекс "Хатынь". Да помніка бязвінным ахвярам вайны яны нясуць вянкі і кветкі.

— Для мяне Хатынь — тое месца, дзе можна адчуць увесь трагізм вайны, — заявіў Ёнас Паслаўскас, — дзе можна ўспомніць аб яе шматлікіх бязвінных ахвярах. Гэта тое месца, дзе мы, аддаючы даніну мінуламу, павінны думаць пра будучае, каб нідзе ў Еўропе не было больш такіх могілак спаленых вёсак.

У гэты дзень мы адзначаем не толькі Дзень Перамогі. У еўрапейскіх краінах гэтая дата адзначаецца і як Дзень Еўропы. У 1950 годзе міністр замежных спраў Францыі Рабер Шуман абвясціў дэкларацыю, якая ўтрымлівала асноўныя моманты стварэння аб’яднанай Еўропы. Гэты працэс працягваецца зараз, і мая краіна актыўна ў ім удзельнічае.

Кожны раз Ёнас Паслаўскас прыязджае ў Хатынь са сваёю жонкаю Даляю і дзецьмі. Кветкі



да вечнага агню ў гэты дзень нясуць таксама ўсе дзеці супрацоўнікаў літоўскай амбасады ў Мінску.

—Вы бачыце, колькі ў нас дзяцей, — адзначыў Ёнас Паслаўскас. — Пасля кожнай паездкі яны задаюць шмат пытанняў. Гэта вельмі важна, што дзеці ведаюць праўду негледзячы на тое, што яна такая жорсткая і складаная. Толькі ведаючы мінулае, можна будаваць будучае.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

**Президенту Республики Беларусь господину А.Лукашенко**

## ОТКРЫТОЕ ПИСЬМО

**претендента на пост Президента Республики Беларусь Лидера Республиканского оргкомитета общественно-политического блока “Новая Беларусь — Единство”**

Уважаемый Александр Григорьевич!

Пользуясь случаем, который мне любезно предоставили ваша Администрация и руководитель Дворца Республики своим сомнительным отказом о предоставлении помещения для проведения Конгресса народов Беларуси, имею честь высказать Вам свою озабоченность и тревогу по поводу Вашей политической судьбы, особенно в преддверии президентских выборов, так как уверен, что никто из вашего окружения правду Вам не скажет по известным причинам.

Семь лет Вашего правления подходят к концу. Примитивный популизм, который был главным фундаментом Вашего политического бытия, породил массовое отторжение Вас как руководителя государства у представителей практически всех социальных слоев белорусского общества. Ваше имя теперь стало нарицательным не только в Беларуси, но и во всем цивилизованном мире.

Даже для руководства Союзной России Ваш политический образ неприемлем.

Вам везде в доступной форме отказано в поддержке, в том числе и в заветном Кремле.

Всем известно, что Ваше политическое банкротство в основном подготовлено Вашим прокоммунистическим окружением. Они не говорят Вам правду лишь потому, что страх, который они испытывают ежеминутно, превратил их в инструмент удовлетворения Вашего обостренного тщеславия. Вы постоянно всех пугаете юридической и физической расправой, “срываете головы”, “давите вшивых блох”, надеваете наручники, что-то постоянно забираете и что-то раздаете и т.д.

К сожалению, это уже тревожный симптом. Главный Кафедральный Собор белорусской православной церкви — это все же не овальный зал нелегитимного Парламента. Даже римские императоры не решались брать на себя роль верховных понтификов и не смешивали государственные речи с религиозными, а как обыкновенные граждане в дни церковных праздников молились в храмах.

Для Вас Закон и нравственность — как дышло колхозной телеги, к которому можно от желания хозяина привязать кого угодно и как угодно, в зависимости от погоды, настроения и места.

Мировая юриспруденция благодаря Вам пополнилась особым белорусским единоличным правом, украсившим махровый ландшафт бесправия.

Вы — единственный в этой стране истинный патриот, честный, непогрешимый человек, строгий, справедливый и доступный, во всем разбираетесь и не только как “кони валяются”, но и в квантовой механике, интегралах, в бизнесе и в мировой экономике.

Главное: Вы за все платите из своего кармана.

Только Вы один достойны присутствовать в теле- и радиоэфире и вещать нам истины в последней инстанции. Неужели Ваши идеологи не понимают, что это не просто раздражает граждан, но и нарушает все известные цивилизованные, моральные и эстетические нормы поведения людей. Многие молодые матери пугают Вами непослушных детей, переняв у Вас опыт запугивания своих политических оппонентов.

Пугая других, Вы сами объяты тотальным страхом перед предстоящим поражением.

В душе Вы давно знаете, что Вы проиграли безвозвратно и навсегда.

Всем известно, почему Вы боитесь демократического и свободного волеизъявления граждан нашей многострадальной республики в соответствии даже с Вашей Конституцией, Избирательным Кодексом и назначенной Вами Центральной избирательной комиссией. Поэтому во Дворце Республики, который пока не является Вашей собственностью, в преддверии президентских выборов циничным образом запрещается проведение Конгресса народов Беларуси, который по своей масштабности не уступает Вашему номенклатурному Всебелорусскому собранию.

И в таких условиях Вы еще надеетесь легитимно занять президентское кресло?

Вы, наверное, понимаете, что это уже не реально, как и не реально признание мировым сообществом результатов выборов в Палату представителей Национального собрания Республики Беларусь. Сегодня нелегитимный Парламент — завтра нелегитимный Президент, а в конечном итоге под вопросом легитимность и самого белорусского государства, со всеми вытекающими отсюда последствиями. Поэтому путь, избранный Вами, порочен: несет горе, нищету и страдания всем, кто проживает в этой стране.

Так, широко разрекламированный, созываемый по Вашему Указу Всебелорусский Съезд не имеет ничего общего с истинным настроением миллионов обманутых Вами белорусов. Десятки тысяч желающих попасть на этот Съезд с Вами отсеяны опричниками от “вертикали” как неблагонадежные. Они понимают, какая поддержка и оценка будет дана Вам истинными представителями народа за все то, что Вы сделали для него. Тем не менее среди двух с половиной тысяч отобранных так называемых “участников”, призванных обеспечить декоративный фон для Вашего политического шоу всенародной поддержки “А-ля-референдум 1996 года”, не все будут молчать.

У Вас есть еще выбор: или выйти на честный политический бой, или добровольно уйти со своего поста, как это сделал старый и мудрый Б.Ельцин.

Не испытывайте судьбу, как Ваш бывший друг и союзник Милошевич.

Я как патриот своей страны даже готов Вам в этом помочь и обсудить с Вами пути выхода из создавшейся ситуации в прямом эфире средств массовой информации, лично монополизированных Вами. Хотя я очень сомневаюсь в том, что у Вас хватит мужества публично встретиться с альтернативным претендентом на пост Президента Республики Беларусь, за спиной которого тоже есть поддержка избирателей страны, без манипуляций Ваших факиров и фокусников из БТ.

Кстати, рейтинг Вашей популярности (по информации московских социологических и других служб) катастрофически низок. Я надеюсь, что кто-то из Ваших приближенных подавил в себе лакейское начало и, преодолев страх, доложил Вам об этом. Не сорок три процента, как показывает Вам господин Зимовский, а не более двадцати трех.

Вы сами себя обманываете и заставляете делать это других. Ваше окружение об этом хорошо осведомлено и, как мне стало известно, практически готово покинуть Вас, как в свое время господина Кебича, в угоду новому хозяину.

Уважаемый господин А.Лукашенко!

Несмотря на то, что Вы дали команду своему Центризбиркому не регистрировать меня ни при каких условиях, я все же вынужден поставить Вас в известность, что мое желание выиграть у Вас во много раз больше Вашего желания удержаться у власти. Я хочу, чтобы Вы и Ваша обанкротившаяся команда знали об этом.

**С.В.ГАЙДУКЕВИЧ, претендент на пост Президента Республики Беларусь, лидер Республиканского оргкомитета общественно-политического блока “Новая Беларусь — Единство”, председатель Либерально-демократической партии.**

**От редакции.** *Учитывая жанр материала, редакция полностью сохранила стилистику и орфографию оригинала.*

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

## Еще раз о едином кандидате

**Валерий КАРБАЛЕВИЧ**

Тезис о едином кандидате, который должен противостоять Лукашенко на президентских выборах, давно стал культовым, превратился в аксиому. Это соответствует, во-первых, логике политического процесса. В условиях авторитарного режима его оппоненты не могут позволить себе роскошь плюрализма в среде оппозиции, которая всегда разнородна. Несколько кандидатов от широкого спектра политических сил возможны лишь в условиях демократии. Впрочем, и в демократической системе очень часто по тактическим соображениям создаются коалиции и объединения. В период авторитаризма силы оппозиции находятся в неравных условиях, всегда имеют ограниченные возможности мобилизации своих ресурсов. Поэтому логика политической борьбы естественным образом диктует необходимость объединения всех оппозиционных сил вокруг единого кандидата. Тем более что в наших сегодняшних условиях очень многое поставлено на карту, даже сама белорусская государственность.

Во-вторых, идея единого кандидата органически вытекает из белорусского менталитета. В сознании нашего общества политика сильно персонифицирована. Политические идеи воспринимаются населением в основном через их носителей. И идея перемен, избавления Беларуси от Лукашенко может превратиться в победоносную политическую силу лишь в связке с конкретным человеком.

Для победы на президентских выборах необходимо иметь много самых разнообразных ресурсов. Хотелось бы обратить особое внимание на один из них: временной ресурс. Для “раскрутки” кандидата необходимо определенное время. Существуют разработанные технологии, определяющие его с математической точностью. Очевидно, что в условиях государственной монополии на радиоэлектронные СМИ времени для оппозиционного кандидата требуется значительно больше. Его нужно еще больше в условиях невысокой известности и узнаваемости претендентов.

Необходимо признать, что отсутствие сегодня единого кандидата — это показатель недостаточной зрелости оппонентов режима. И заявление “пятерки” кандидатов (С. Домаша, С. Калякина, П. Козловского, В. Гончарика, М. Чигиря) о готовности к координации действий — это, безусловно, шаг вперед.

Однако некоторые кандидаты, а также политические партии (БСДП) и эксперты предлагают стратегию избирательной кампании, которая, на наш взгляд, является порочной и неперспективной с точки зрения конечного результата. Суть ее состоит в том, что начинают избирательную кампанию, собирают подписи все претенденты, и лишь после регистрации решается вопрос о едином кандидате.

Проблема в том, что после сбора подписей и регистрации определить единого кандидата будет еще труднее, чем теперь. Потому что к тому времени каждый кандидат затратит много усилий, материальных ресурсов, создаст команды, сделает много обещаний. После сбора подписей рычаги влияния партийных лидеров на кандидатов, зависимость последних от партий существенно уменьшатся.

Вопрос о критериях определения самого сильного кандидата встанет с новой силой. Разрыв в рейтингах между претендентами вероятнее всего будет небольшим. Причем различные социологические службы будут давать разные данные, и каждый кандидат станет ссылаться на те, которые выгодны ему. В конце концов все участники избирательной кампании в очередной раз отодвинут вопрос об определении единого кандидата до момента объявления итогов первого тура выборов. В таком случае все закончится тем, что второго тура просто не будет.

Однако главная уязвимость этого сценария состоит в том, что катастрофически сокращается временной ресурс. По Избирательному кодексу собранные 100 тысяч подписей в поддержку кандидата передаются в Центризбирком за месяц до даты выборов. На регистрацию отводится пять дней. Понятно, чтобы сократить всем конкурентам Лукашенко время для агитационной кампании, итоги регистрации будут объявлены в последний день этого срока, т. е. за 25 дней до выборов. Если какого-то кандидата не зарегистрируют, он в течение трех дней будет обжаловать в суде законность этого решения. Затем несколько дней придется потратить на то, чтобы договориться о едином кандидате из числа прошедших регистрацию. Будем исходить из оптимистического сценария и допустим, что это удалось. В результате на всю агитационную кампанию в поддержку единого кандидата остается около 20 дней (!).

Вдумайтесь в эту цифру и умножьте на наши информационные условия. Радио и телевидение будут каждый день называть единого кандидата коррупционером, шпионом и развратником, а самому ему если и предоставят возможность выступить, то минимальное количество раз. Независимые СМИ мало чем смогут помочь, поскольку неопределившийся электорат, за голоса которого и нужно главным образом вести борьбу, их в основном не читает. Главным способом агитации остается хождение по квартирам. Посчитайте количество агитаторов, которых можно мобилизовать, а также количество квартир, число “рабочего времени”, и вы поймете, что это невозможно.

Могут возразить, что мы не учитываем время (целый месяц), отведенное для сбора подписей. Однако проблема в том, что собирать подписи будут не менее десяти команд кандидатов. Это серьезно запутает население, в том числе и протестный электорат. Чтобы проголосовать против существующей власти, население должно ясно увидеть и отчетливо зафиксировать для себя альтернативу. Такой альтернативой не может быть ни “тройка”, ни “пятерка”, ни коалиция. Когда в ответ на вопрос, ставший уже ритуальным, “А кто вместо Лукашенко?” оппозиционеры будут отвечать, что у нас есть три-пять замечательных кандидатов, то первой реакцией нормального обывателя скорее всего будет ненормативная лексика.

Главным аргументом в пользу необходимости собирать подписи в поддержку нескольких кандидатов называют опасность нерегистрации единого кандидата. Действительно, такая опасность очень велика. Однако сценарий с несколькими кандидатами эту проблему никак не решает. С таким же успехом можно не зарегистрировать и 3—5 человек. Выборы в Палату представителей показали, что не регистрируют всех сильных кандидатов. Делая ставку на нескольких кандидатов, оппоненты режима в какой-то мере передают самому Лукашенко возможность выбора удобного ему соперника. И вопрос о том, что делать в случае нерегистрации, должен быть одним из важных элементов общего сценария.

Очевидно, для оппонентов режима самым оптимальным вариантом было бы достижение консенсуса о едином кандидате теперь. И на этой основе строить коалицию, политический блок, широкое общественное движение. Создавать же коалицию конкурирующих между собой кандидатов и команд, не договорившись об одной кандидатуре, — идея, близкая к утопической.

## Надвор’е

Сёння ўдзень па краіне захаваецца пераменная воблачнасць, па паўднёвым усходзе кароткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы. Вецер паўночны, 5—10 м/с, парывы да 14. Тэмпература паветра ў Віцебску, Магілёве — +13...+15, Мінску, Гродне — +14...+16, Гомелі — +15...+17, Брэсце — +16...+18.

У наступныя двое сутак — пераважна без ападкаў. Вецер паўночны, 3—5 м/с, удзень парывы да 12. Уначы на большай частцы тэрыторыі замаразкі да 0...-3, 13-га на тарфяніках Палесся да -5, удзень 13-га — +12...+17.

НАВІНЫ

## Кшыштаф Занусі выступіў з лекцыяй у Мінску

**Парог паміж XX і XXI стагоддзямі, значны для еўрапейцаў і амерыканцаў, застаўся практычна незаўважаным у краінах Афрыкі і Усходу. Такую думку выказаў вядомы польскі рэжысёр Кшыштаф Занусі, выступаючы вечарам 7 мая ў Мінскім міжнародным адукацыйным цэнтры з лекцыяй "Культура на пераломе стагоддзяў. Кірмаш і салон грамадскага кіно".**

Падчас выступлення класік еўрапейскага кінематографа выказаў шэраг парадаксальных меркаванняў. Ён, напрыклад, лічыць, што большасць людзей заўсёды і ўсё робяць дрэнна, пачынаючы з таго, што яны дрэнна разбіраюцца ў мастацтве і палітыцы. Ён заявіў: "Для мяне не чалавек, а Бог — цэнтр космасу, я больш тэакрат, чым гуманіст. Гуманістам я станаўлюся, калі чую пра боль і пакуты".

Кшыштаф Занусі таксама прызнаўся, што "належыць да меншасці, якая чытае кнігі", супрацьпаставіўшы яе большасці, гатовай задаволіцца візуальнымі сродкамі інфармацыі. У гэтай сувязі польскі рэжысёр прапанаваў слухачам папярэдзіць сваіх знаёмых праграмістаў: у бліжэйшыя 20 гадоў яны стануць беспрацоўнымі; такія прагнозы ён атрымаў падчас нядаўняй паездкі ў ЗША ад вядучых спецыялістаў у галіне праграміравання.

На просьбу карэспандэнта БелаПАН выказаць сваё стаўленне да пакарання смерцю польскі рэжысёр заявіў: "Думка аб тым, што адзін чалавек можа адняць жыццё ў другога, для мяне агідная. Развітыя краіны Еўропы адмовіліся ад гэтага. Іх вопыт паказвае, што адмена пакарання смерцю не вядзе да павелічэння колькасці злачынстваў". Што да публічнага пакарання смерцю, то Кшыштаф Занусі назваў гэта "адраджэннем варварства".

**Анатоль СТРЫКУНОЎ.**

## "Беларуская мадонна — XXI стагоддзе"

**11 мая ў 17.00 у сталічным Нацыянальным мастацкім музеі выступленнем ансамбля флейтыстаў "Сірынкс" урачыста адкрыецца фестываль "Беларуская Мадонна — XXI стагоддзе", прымеркаваны да Міжнароднага Дня Сям'і. Фестываль пройдзе ў Мінску, Гомелі і Валожыне 11—18 мая. У ліку яго арганізатараў дабрачынныя арганізацыі "Надзея-экспрэс" і "Сіці Хоуп Інтэрнэшнл", Беларускі саюз жанчын, НДІ аховы мацярынства і дзяцінства, установы культуры, раённыя адміністрацыі Мінска і Валожына.**

Мяркуемыя ўдзельнікі асветніцкіх і забаўляльных мерапрыемстваў фестывалю — маладыя пары, якія плануюць і чакаюць дзяцей, цяжарныя жанчыны, медыкі, занятыя ў сістэме родадапамогі. У рамках фестывалю плануецца правядзенне кніжных і фотавыстаў, прэзентацый клубаў цяжарных "Роды без боязі", кансультацый урачоў у бібліятэках і Палацах культуры, інфармацыйных праграм для маладых у аддзелах ЗАГС, святаў сям'і.

У офісах Беларускага Саюза жанчын і Міжнароднай дабрачыннай арганізацыі "Надзея-экспрэс" ужо распачата і будзе праходзіць да канца мая акцыя "Мама — маме" па зборы і перадачы дзіцячай вопраткі падрослых дзяцей іншым, маючым патрэбу. Кульмінацыяй свята павінны стаць тры дні свабоднага доступу публікі ў Нацыянальны мастацкі музей Беларусі. 11—14 мая з выставай "Іканапіс Беларусі XVI—XVIII стагоддзяў" змогуць бясплатна знаёміцца ўсе наведвальнікі, а маладыя пары і цяжарных жанчын тут чакаюць асобныя сюрпрызы.

**Святлана НЯСТРАХАВА.**

## БЕЛОРУСЫ МЕЖДУ НЕБОМ И ЗЕМЛЕЙ

*Хроники Анатолия КОЗЛОВИЧА*

# 9. ЗУБР

**Беларусь испачкали "зубром". За год-полтора надпись из четырех букв — ЗУБР — изуродовала заборы, стены, витрины, подъезды, лестницы... Зарождается предположение: кто раньше осваивал грамоту с буквы "х", тот теперь полюбил букву "з". Слышал, что ЗУБР — аббревиатура молодежной организации, которая поставила своей целью стать сильной, как зубр, и повести Беларусь к счастью. Слышал, что и депутаты вдруг заговорили о пущанском звере. Народные избранники обещают, что поведут Беларусь в новый союз, который будет могучим, как тот самый зубр. Депутатская инициатива так и называется — "Зубр". Коль дружно заговорили о зубре, то и мне захотелось включиться в разговор.**

В 1518 году поэт Николай Гусовский в составе посольства Великого княжества Литовского и Королевства Польского прибыл в Италию. В Европе литвинов и поляков воспринимали как народ северный, нецивилизованный, плодили небылицы об их стране. Одна из сказок — бизон невиданных размеров — дошла до Папы Римского Льва X.

Могущественный сан не мешал Льву X опекать таланты, собирать картины, чучела экзотических животных. На аудиенции у Папы польско-литовский посол Эразм Вителлиус уловил высочайший каприз: чтобы набитая сеном шкура бизона была доставлена в коллекцию Ватикана. Посол отправил виленскому воеводе Радзивиллу прошение добыть шкуру зверя покрупнее, а друга Гусовского попросил предоставить Папе описание бизона, на местном наречии — зубра.

Любознательный Лев X в 1521 году умер, не успев увидеть северного зверя и прочесть на латинском языке "Песнь о зубре" Николая Гусовского. Новый Папа Адриан VI оказался невеждой, не подпускающим к себе ученых, художников, поэтов. Он был озабочен ересями, а не бизоном и стишками.

В 1522 году поэта постиг еще один удар — в Риме от чумы умер его покровитель посол Вителлиус. Гусовский остался в Италии без средств к существованию. Издать произведение в Италии не удалось.

В 1523 году поэт принял решение возвратиться в родные края. В том же году при помощи высокопоставленных меценатов поэтический сборник Гусовского "Песнь о зубре" вышел в Кракове мизерным тиражом — и канул в Лету на четыре века. По стечению случайностей гений не был востребован современниками ни в Европе, ни на родине.

Просвещенный мир опомнился в 1980 году в связи с 500-летием Николая Гусовского. Его имя ЮНЕСКО включила в славный мировой календарь. Славянского поэта-латиниста считают своим представителем в мировой культуре поляки, литовцы, белорусы. Пусть так и будет. Жили-то в одном многонациональном государстве. Не установлены ни место рождения Гусовского, ни его могила. Он писал, что родом из Гусова. А может, Усова? Трудно разобраться теперь в фонетике и графике латинского, польского, старобелорусского. Впрочем, местной топонимикой, давшей автору поэтическое имя, богата именно Беларусь. Да и Борисфен "Днепр), упомянутый в "Песне", течет не в Литве "нынешней) и Польше, а в Беларуси...

Не в том суть, чей Николай Гусовский, а в том, кому он сейчас более нужен. Поэта попросили рассказать Европе о зубре, поэт сочинил ГИМН О РОДИНЕ. Однако поэма Гусовского, пришедшая в Беларусь лишь в шестидесятых годах двадцатого века, белорусами не прочитана внимательно и благодарно. Понятие РОДИНА у белорусской массы атрофировалось так, как у куриной массы атрофировалось понятие ПОЛЕТ. Бескрылый народ послушно бредет в очередное "союзное государство".

"Ах, как он слеп, наш народ, как плачевно его положенье! Мы — еще толпы", — писал Гусовский, задумавший с помощью зубра активизировать процесс национального самосознания литвинов, то есть белорусов.

Зубр для Гусовского — движущая сила отечественной истории. Исполинский силач, ЗУБРО-БУРЛАК, тащит страну к процветанию, к мировой славе, а страна упирается. Я не знаю более наглядного изображения тупой белорусской толпы, объединившей и правителей, и народ.

***

Гусовский — сын лесника и зверолова. С детства отец учил его метать копье, скакать на лошади, переплывать верхом "реки лесные, Днепра полноводного стрежень". Он овладел искусством охотника, однако признается: "Я бы, конечно, охотно остался в сторонке, но отставать от друзей на охоте считалось позором". В этом признании — ключ к пониманию позиции поэта. С восхищением описывая зубра, он отстраненно передает сцены охоты:

*Много я видел, но больше всего поражался*
*Зверя прыжками — о, это разящая ярость!*
*Ищет виновных, кто ранил его, великана.*
*В два-три прыжка настигает беспечную жертву,*
*Страшным рывком поднимает на воздух, пронзает,*
*А недобитого, будь это конь иль наездник,*
*Давит, рогами подбросит и рвет беспощадно.*
*Кровь леденеет при виде жестокой расправы.*

Через четыреста лет некий молодой человек, наблюдая на стадионе подобную расправу, почувствует, как собственная кровь закипает от ... счастья, — и целенаправленное убийство быка назовет "поэмой быка". Его звали Эрнест Хемингуэй. Он блестяще опишет корриду как зеркало испанского менталитета, допускающего убийство быка ради развлечения. Однако "Фиеста" Хемингуэя — это, по-моему, то, что блестит, не согревая. От этого солнца не позеленеют в листьях зерна хлорофилла — и не начнут бесконечную цепочку жизни.

Все, чем занимается человек, он готов довести до совершенства, до поэтического обоснования. В том числе убийство. Но сие не значит, что все то, что совершенно, — гуманно. Заменив жуткий бой гладиаторов красиво обставленным боем быков, человек продвинулся на пути лицемерия. Он не желает признать, что матадор-циркач, эффектно закалывающий быка шпагой, — убийца. Так считал Николай Гусовский, наблюдавший белорусскую корриду. Так нынче считает Гринпис "зеленый мир). Гуманизм Гусовского — современной пробы.

На зубра охотились ради мяса для войска, но главным образом — для тренировки и соревнованья воинов, для развлечений князей. Доблестью считалось поймать зубра живым, доставить в лагерь, выпустить, на глазах у правителя заколоть копьями. Коронованные особы любили наблюдать убийство зубра в естественных условиях. В пуще на толстых столбах устраивались помосты, там князья и их жены переживали "поэму зубра".

*Зубр-великан, кровоточа развершейся раной,*
*Остановился, тряся головой, и заметил*
*Яркость одежд на помосте. Уставился тупо,*
*Будто с трудом узнавал там отдельные лица.*
*Смертью моей любоваться сошлись! Погодите ж,*
*Я покажу вам убийство, века будут помнить!*
*И зарыкал, раздувая мясистые ноздри.*
*Прыгнул, ударил рогами и выбил подпору.*
*Мост покачнулся, повиснув на трех основаньях.*
*Если б, по воле судеб, он ударил вторично,*
*Рухнуло б все, и какою обильною кровью*
*Почва бы там оросилась, рога обагрились —*
*Оцепеневшею в ужасе мыслью не смею представить!*

Сцены охоты Гусовский перемежает рассказами о прошлом родины, поет хвалу сто лет назад ушедшему в мир иной князю Витовту "только ему одному из всех правителей ВКЛ), с болью говорит о междоусобных войнах князей-современников. Получив от Папы Римского заказ описать зубра, автор не скрывает, что "играет в оттяжку". Зубр для него — символ, связующий прошлое и будущее. Охота на зубра ассоциируется с постоянной войной. Убиение зубра — убиение родной страны.

*Хватит убийств! Возбужденная совесть и разум*
*Властно велят мне тревогу поднять, ополчиться*
*Против разбоя...*
*О пресвятая, пречистая дева Мария!*
*Внемли мольбам нашим и заступись за несчастных!*
*Князьям возврати здравомыслия трезвость,*
*Чтобы осмыслили долг свой, преступно забытый.*
*Все они в этом безумном, разнузданном мире*
*Лишь на словах миротворцы, а волки на деле.*
*Нам не дождаться, пока к ним придет протрезвленье...*

***

ЗУБР ЕВРОПЕЙСКИЙ в дохристианские времена был привычен для Европы, богатой широколиственными и смешанными лесами. Этот гигант — вегетарианец. Специалисты утверждают, он ровесник мамонта. А мамонт — современник человека каменного века. Если бы не оледенение, мамонт, возможно, не исчез бы, человек-охотник не смог бы истребить его каменным топором и примитивным копьем. А так бедный мамонт не перенес холод — и вымер.

Человек не только адаптировался к холоду и выжил, но и поумнел, изобрел железный топор, сконструировал лук и ружье — и сделался коварным, хитрым, безжалостным, безумным. К девятому-десятому векам он полностью истребил зубра в Юго-Западной Европе "примерно в той зоне, где сейчас быков убивает на арене, и я думаю, что это совпадение не случайно).

Если бы современник Николая Гусовского, просвещенный Папа Лев X был склонен к путешествиям, как нынешний наследователь Ватикана, тоже ценитель искусств, поляк по рождению Папа Иоанн Павел II, то он еще мог бы полюбоваться живым зубром "не чучелом) в соседней Франции либо чуть дальше — в Германии, Румынии, Венгрии. Жаль Папу: не поехал, не увидел чудо природы.

Жаль и чудо — оно к девятнадцатому веку сделалось в европейских лесах редкостью. К началу века двадцатого зубры жили в природе только в Беловежской пуще "1914 год — 727 голов) и на Северном Кавказе. В 1919 году люди убили последнего беловежского зубра, в 1927 — кавказского. На земле не осталось ни одного вольного, не зависимого от человека зубра.

Мамонта истребила дикая природа, зубра истребила ПРИРОДА ЧЕЛОВЕКА, дикость которой не имеет рамок. Понимая это разумом, чувствуя сердцем, Николай Гусовский воскликнул:

*Дева Мария!..*
*Раб твой смиренный, к тебе обращаюсь с мольбою,*
*Хоть и не знаю, где молвить и где помолчать бы.*
*Вот умолкаю и чувствую — ты же достойна,*
*Чтоб голосами всех тварей земных и созданий*
*Мир зазвенел и молитвенно пел тебе славу.*

Слышны отчаяние, протест, прозрение. Человек религиозный, Гусовский и боготворит, и приземляет деву Марию до забот о "всех тварях земных", вместе с которыми он намерен молиться. Он ставит человека и тварей на одну ступень мироздания. Если твари умолкнут и мир перестанет звенеть, то к чему одинокая молитва человека — обедненный мир обрушит в темноту душу человека. Не помогут ни образование, ни культура.

Увидев во время чумы в Риме языческое жертвоприношение быка, Гусовский был поражен дисгармонией передового общества. В колыбели Возрождения он не надеялся увидеть дикость, от которой страдал на родине. Пожив в Италии пять лет, изучив ее богатую культуру, пообщавшись в высшем свете, он впитал в себя светлые идеи времени, встал на европейский уровень — и испытал разочарование. Начал писать стихи, осуждающие итальянские порядки.

***

Гуманизм Гусовского был максималистским, перерастал "ренессансные штанишки" Европы. Рискну предположить, что Европа уже тогда не любила заезжих "выскочек", намеренно не воздала должное успехам литвина, вытолкнула на свои задворки. Его гениальный земляк-современник Франциск Скорина был более рациональным, предприимчивым человеком, нашел общий язык с Европой, использовал ее благосклонность для родины и для себя лично.

Предполагают, что Гусовский читал книги, изданные Скориной. А читал ли Скорина "Песнь" Гусовского? Скорее — нет, хотя они могли встретиться и в Вильно, и в Кракове, и в Италии. Если бы встретились, Скорина по достоинству оценил бы поэму Гусовского, издал бы ее со своим предисловием.

Беларусь родила двух братьев по духу, но не собрала их вместе под своим крылом, бросила на произвол судьбы, как плохая мать. Давнее можно простить: в шестнадцатом веке Беларусь матерью себя не осознавала.

Николая Гусовского вытолкнула из Европы дисгармония Возрождения. В "золотом времени" он подмечал идеальное и мерзкое в одном сосуде. Не могу представить Гусовского в задушевной беседе, скажем, с современником Бенвенуто Челлини, знаменитым скульптором и ювелиром. На склоне лет он сочинил автобиографическую книгу "Жизнь Бенвенуто Челлини", которую признают литературным шедевром Возрождения. Почитаем оттуда:

"Я взялся за маленький колючий кинжальчик и, разорвав цепь его молодцов, обхватил его за грудь с такой быстротой и спокойствием духа, что никто из сказанных не успел заступиться. Когда я потянул его, чтобы ударить в лицо, страх заставил его отвернуться, так что я уколол его под самое ухо; и сюда я подтвердил всего лишь два удара, как на втором он выпал у меня из рук мертвым...".

Разобравшись с недругом, убийца Челлини приступил выражать свое "Я" в ювелирном искусстве, характерном для Возрождения.

Прославился Челлини и как ваятель. С самолюбованием и бахвальством он описывает творческий процесс:

"Я за ней посылал и лепил ее; каждый день я ей давал по тридцать сольдо; и так как я заставлял ее оставаться голой, то она требовала, во-первых, чтобы я платил ей деньги вперед; во-вторых, она требовала очень хороший завтрак; в-третьих, я из мести имел с нею общение, попрекая ее и мужа теми разными рогами, которые я ему учинял; в-четвертых, я держал ее в очень неудобном положении помногу; и быть в этом неудобном положении ей очень надоедало, настолько же, насколько мне это нравилось, потому что она была прекрасно сложена и приносила мне превеликую честь...".

Это — не юморист Бокаччо, а средневековый истязатель. Когда натурщица не выдерживала и начинала протестовать, скульптор поступал круто: "Отдавшись в добычу гневу, я схватил ее за волосы и таскал ее по комнате, колотя ее ногами и кулаками, пока не устал".

Однако художественная фигура еще не была закончена. Ваятель вновь пригласил ту же натурщицу: "Я дал ей хорошенько закусить и поел с ней в знак мира. Затем принялся ее лепить, и тем временем у нас случились плотские услады, а затем, в тот же самый час, что и в прошедший день, она до того меня разбередила, что мне пришлось надавать ей таких же самых колотушек, и так мы продолжали несколько дней...".

А затем скульптор отлил фигуру многократно униженной натурщицы в бронзу, выставил на обозрение — и зрители восхищались. Среди зрителей мог быть Николай Гусовский, но он не пришел. Я уверен, что не пришел. Он ценил себя высоко, как ценили себя все художники Возрождения. Раскрепощенность и свободу собственной личности они ставили превыше всего. Иные "Челлини) "раскрепощались" до убийц, циников. Живой человек как цель Возрождения превращался в ничто.

Человек остался ценностью лишь в бронзе. Холодный. Не выдвигающий передовых идей. Мертвый человек — прекрасен. Божественна инквизиция. Назидателен костер, в котором горит Джордано Бруно и за который Папа Римский решился попросить прощения у цивилизации и культуры лишь в конце двадцатого века.

Гусовский жил в Италии на исходе Возрождения. Он заметил кризис гуманистического миропонимания. Цельного человека создать не удалось. Нужно было существовать в реальном мире, в нем искать надежду. Надежду поэт издалека видел на родной земле, где все твари земные ему ровня. Не найдя понимания в культурной среде, поэт возвращается в природу-родину:

*Что ж убиваться и сетовать нам — Понимаем:*
*Лес бессловесен, так пусть же услышится голос*
*Гуссовиана о наших могучих животных!*

О, Гуссовиане! Природа одарила тебя поэтическими фантазиями и гражданским мужеством, но ты не смог бы представить, что через пятьсот лет на твоей родине зубра превратят в ... мышь.

*(Окончание в следующем номере.)*

## Лінгвіст

Ірына Арцюх, вучаніца 9 класа віцебскай СШ №34, заваявала дыплом І ступені на рэспубліканскай алімпіядзе па нямецкай мове. Акрамя нямецкай, яна вывучае і англійскую.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

ПАВІЛЬёН

## Свой дом. Мара ці рэальнасць?

***Будаўнічая выстава "Вокны. Дзверы. Дах. Свет шкла. Інтэр'ер і мэбля", якая днямі праходзіла ў Мінску, у чарговы раз пацвердзіла, што становішча на рынку патрабуе ад дзяржавы новага падыходу да дробнага і буйнога бізнесу. Ад гэтага ў першую чаргу выйграе беларускі спажывец.***

Нягледзячы на вялікую канкурэнцыю сярод фірм, якія займаюцца вырабам будаўнічых матэрыялаў, цэны на іх прадукцыю застаюцца дастаткова "кусачымі". Так, напрыклад, многім жадаючым уцяпліць і ўпрыгожыць сваю кватэру шклопакетамі, прыйдзецца адкласці задумку. Пакуль яны даступныя толькі для "новых беларусаў". Кошт на гэтыя "цацкі" вагаецца ад 200 да 500 долараў. Тое ж можна сказаць і пра дзверы з ПВХ і алюмінію — ад 200 да 1200 долараў.

Аднак, па словах арганізатараў экспазіцыі, заможныя людзі аддаюць перавагу рэчам, зробленым з натуральных матэрыялаў. Таму яны былі шырока прадстаўлены на выставе і змаглі задаволіць самага пераборлівага спажыўца. Наведвальнікам прапанаваліся вокны, уваходныя, міжпакаёвыя і балконныя дзверы, разнастайная мэбля і шмат чаго іншага з розных парод дрэва. Але і ў гэтых высакаякасных экспанатаў ёсць недахоп — іх кошт. Наўрад ці радавому спажыўцу ўсё будзе па кішэні. А без 150—200 долараў сюды можна нават і не падыходзіць.

Усяго ў выставе прынялі ўдзел 36 экспанентаў, 29 з іх — айчынныя вытворцы. Яны ў асноўным працуць сумесна з замежнымі партнёрамі. Чым і абумоўлены высокія цэны.

**Таццяна КУЧЫНСКАЯ.**

## "Першацвет": соты нумар

### Чуткі пра смерць маладзёжнага часопіса перабольшаны.

Рэкламісты мяркуюць: няважна, добра альбо дрэнна пра вас гавораць, абы не маўчалі. Не прамаўчала пра баларускі маладзёжны часопіс "Першацвет" і "Народная воля", надрукаваўшы 18 красавіка артыкул С.Патаранскага "Як з "Першацвета" абрывалі цвет". Падзагаловак таксама ўражвае: "Фактычна знішчаны незалежны маладзёжны часопіс". У матэрыяле ідзе гаворка пра апошнія змены ў "Першацвеце", а прозвішча галоўнага аб'екта крытыкі — рэдактара выдання — пераблытана (замест "Ярмоленка" ў матэрыяле — "Акуліч-Яроменка"). Што само па сабе ўжо сведчыць пра "высокую праўдзівасць" артыкула.

1 сакавіка гэтага года ў маладзёжным часопісе "Першацвет" адбылася змена рэдактара. Шэраговая падзея, здавалася б. З якой жа прычыны шум? С.Патаранскі так часта выкарыстоўвае слова "мы" ("мы адстаялі", "чаму мы не друкавалі", "нашы апаненты"), што можа скласціся ўражанне, быццам ён выступае ад імя калектыву часопіса. А між тым сам Патаранскі ніколі не ўваходзіў у штат выдання. Што да калектыву, то на сённяшні дзень лепшыя творчыя сілы часопіса засталіся і плённа працуюць (дарэчы, гэта якраз тыя людзі, што, як сцвярджаецца ўсё ў тым жа артыкуле, дапамаглі прыйсці на старонкі выдання "новаму, яркаму, самабытнаму пакаленню").

Красавіцкі нумар выходзіць своечасова. Соты (№100) нумар "Першацвета". Ці не гэты факт, прайшоўшы праз "сапсаваны тэлефон" каля літаратурнай тусоўкі, трансфармаваўся ў нібыта прапанаваную для абноўленага выдання назву "СТО"? Бо нічым іншым з'яўленне падобнай "версіі" растлумачыць немагчыма.

Прыкра, што ў артыкуле, напісаным нібыта маладым і нібыта творчым чалавекам, аргументацыя будуецца па прынцыпе "не чытаў, але асуджаю". Не абцяжарваючы сябе сустрэчамі і размовамі ні з калектывам "Першацвета", ні з кіраўніцтвам газеты "Переходный возраст", С.Патаранскі разважае пра канцэпцыю абноўленага выдання. Прыкладна з той жа дакладнасцю, што і імя новага рэдактара, падаюцца і іншыя факты. Замест пасяджэння рэдкалегіі ў артыкуле ўзнікаюць нейкія "сустрэчы рэдакцыі і рэдкалегіі", прычым "чамусьці з шаснаццаці чалавек новай рэдкалегіі абыякавымі не засталіся толькі чацвёра". Можа, таму, што на самай справе збіралася якраз рэдкалегія ў ранейшым складзе. Затое ўзгадваюцца нейкія таямнічыя "пэўныя дзяржаўныя, нібыта маладзёжныя арганізацыі"?

Інфармуем: заснавальнік "Першацвета" — Дзяржаўны камітэт па справах моладзі Рэспублікі Беларусь. Рэдакцыя часопіса "Першацвет" арганізацыйна з'яўляецца аддзелам газеты "Переходный возраст", прычым не з сённяшняга дня.

Што ж парадаксальнага нехта ўбачыў у тым, што газета "Переходный возраст", масавае, папулярнае выданне для падлеткаў і моладзі, фактычна ўтрымлівае ў якасці дадатка літаратурна-мастацкі часопіс для той жа моладзі? Сёння існаваць нашаму выданню (а часопіс патрабуе не толькі творчых высілкаў, але і матэрыяльнага забеспячэння — папера, вёрстка, друкарскія выдаткі, распаўсюджванне і г.д.) дапамагае якраз газета "Переходный возраст", у чыю арганізацыйную структуру мы ўваходзім.

Узнікае ўражанне, што аўтар артыкула дзейнічаў па прынцыпе "абы пракукарэкаць, а там хай і не світае". Не клопат пра маладзёжную творчасць і літаратуру адчуваецца ў падобных публікацыях, а жаданне вылучыцца, няхай і за кошт скажэння інфармацыі і звычайнага падману.

Чуткі пра "фактычную смерць часопіса" былі яўна перабольшанымі. А якім будзе "тэкст і кантэкст" часопіса "Першацвет", напэўна, лепей за ўсё разважаць, прачытаўшы новы нумар. І тады, калі ласка, рэдакцыя з удзячнасцю прыме любую крытыку.

**Вольга ЯРМОЛЕНКА,**
**намеснік галоўнага рэдактара газеты "Переходный возраст", рэдактар часопіса "Першацвет".**

*"Народная воля" віншуе "Першацвет" з юбілейным нумарам і жадае новаму рэдактару і калектыву часопіса творчых поспехаў.*

## Беларусь дапамагае Украіне

Урад Беларусі прыняў рашэнне аказаць гуманітарную дапамогу пацярпелай ад паводкі Украіне ў выглядзе выдзялення фінансавых сродкаў у суме, эквівалентнай 50 тысячам долараў ЗША.

У маі Міністэрствам фінансаў будуць выдзелены асігнаванні ў суме, эквівалентнай 50 тысячам долараў ЗША па курсе Нацыянальнага банка Беларусі на дату канвертацыі.

Як вядома, у сакавіку гэтага года ў выніку паводкі ў дзесятках раёнаў Закарпацкай вобласці Украіны склалася надзвычай цяжкая абстаноўка. У раёнах бедства аказаліся звыш 200 тысяч чалавек, 245 населеных пунктаў, амаль 34 тысячы дамоў. У выніку разгулу стыхіі загінулі людзі, на канец сакавіка было разбурана каля 1.800 дамоў, 28 участкаў чыгунак, 50 кіламетраў аўтатрас.

Варта адзначыць, што ў пацярпелыя ад паводкі раёны Украіны паступіла ўжо гуманітарная дапамога з Аўстрыі, Бельгіі, Венгрыі, Германіі, Італіі, Нідэрландаў, Нарвегіі, Польшчы, Расіі, Румыніі, Славакіі, Францыі, Чэхіі і іншых краін.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Настаўніка тузаюць праверкамі

Шаноўная рэдакцыя!

Піша да вас настаўніца гісторыі. У наш час усеагульнага абвалу, спаду інтарэсу да гуманітарных навук у дзяцей, жабрацкай зарплаты настаўнікаў кантралёры са Слуцкага райаддзела адукацыі панадзіліся рабіць раптоўныя налёты дзеля праверкі якасці выкладання.

Уявіце сабе карцінку: ні раздатачнага матэрыялу для рознаўзроўневага выкладання, ні метадычнага дапаможніка, ні паперы, ні цяпла ў класных кабінетах, ні ксеракса. Затое ў кабінет літаральна ўрываецца арганізатар раённага аддзела адукацыі, не прывітаўшыся, мкнецца да шафы, нешта там шукае — і адразу ж робіць вымову, што ў шафе мала што новага з метадматэрыялаў з'явілася за зіму. А ці ведае яна, што зімой у вучняў і настаўнікаў вывальвалася ручка з закалеўшых рук, што ў галовах панавала адна толькі думка: каб хутчэй дадому, дзе можна залезці замест пірага ў духоўку? І што самае цікавае: дзень праверкі абавязкова супадае ці то з першым школьным днём пасля 10-дзённай працы ў саўгасе, ці то з днём пасля экскурсіі, калі дзеці і настаўнікі з 6 раніцы да 10 вечара трэсліся ў аўтобусе. А назаўтра на першы ўрок прылятае інспектар і на поўным сур'ёзе правярае якасць хатняй падрыхтоўкі...

Усім вядома, якое значэнне для працы мае ўнутраная раўнавага. Настаўнік, які ўжо даўно хворы на неўроз, канешне, не вытрымлівае такога "татара-мангольскага нашэсця" і пасля атрымлівае пісьмовую вымову, якую яму на рукі не даюць, але абяцаюць, што яна будзе прачытана ўсім дырэктарам школ па ўсіх школах, каб больш абняславіць "вінаватага".

Хто ж гэты такі дрэнны настаўнік — непапраўны гультай-небарака? Гэта — я, якая 23 гады была сярод не самых горшых (нават ёсць падзяка ў працоўнай кніжцы), а цяпер ад горкага і хамскага жыцця ўбілася ў палітыку і разрываюся паміж школай, земляробствам і грамадскай працай на карысць Радзіме.

Інспектара не цікавіць, што зараз нават здольны вучань не вельмі хоча вучыцца. Навошта? Ён бачыць на працягу паўгода свайго настаўніка з прадзедаўскай матыкай у руках. А той, хто не надта хіліўся да навукі, ужо даўно ездзіць на машыне, настаўнік жа толькі махае яму рукой: "Спыніся!", пры гэтым ліхаманкава прыпамінаючы, ці шмат ляпіў яму ў свой час "двоек"...

І хочацца сказаць такому інспектару: супакойся, ну не палепшыш ты якасць нашай адукацыі, грызучы настаўніка ці дырэктара. Зразумей, шаноўны, мяняць трэба ўсю нашу грамадскую сістэму — так, як яе змянілі ў іншых краінах. Ніхто там з палкай ні за кім не бегае, кожны настаўнік сам імкнецца, каб дзеці ішлі на ўрокі менавіта да яго, а не да іншага настаўніка, і ад гэтага залежыць яго зарплата. Калі ж узнікае праблема, ён сам завітае да спецыялістаў, якія яго ветліва сустрэнуць і дапамогуць. І не трэба здымаць з дырэктара прэмію за "пракол", бо гэта толькі ў нашай дзяржаве не хапае ягоных мізэрных грошай, каб папоўніць такім чынам "закрома Родины". Няшчасная дзяржава, якая не можа заараць калгаснае поле, не адабраўшы грошы ў дырэктара школы і настаўніка.

Дык вось, паважаны інспектар, калі ты сам баішся змагацца з царствам Хама, то не перашкаджай другому. Што ж дрэннага, калі твой падначалены вынес партрэты людзей, зніклых у невядомасць з-за таго, што былі патрыётамі сваёй Бацькаўшчыны? Ці калі ён і стварыў клуб выбаршчыкаў для назірання за выбарамі, што, зразумела, не падабаецца раённым уладам? Калі ты хварэеш сапраўды за якасць ведаў — распрацуй цікавыя заданні, карткі для дзяцей, прывязі іх у школу — вось тады настаўнік не будзе рабіцца заікай ад аднаго толькі твайго позірку, а ўспомніць цябе добрым словам і будзе рады твайму прыезду.

**Зінаіда ЦІМОШАК,**
**настаўніца.**

Слуцкі раён.

